www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 66 (4318)

21 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ЖНІВО–2018**

### Леташніх паказчыкаў не дасягнулі...

Беларускія аграрыі ўжо намалацілі больш за 5 мільёнаў тон збожжа, паведамляе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Так, на 20 жніўня збожжавыя і зернебабовыя культуры ўбраны з плошчы 1,904 мільёна гектараў, што складае 93,6 працэнта ад усіх пасеваў. Сярэдняя ўраджайнасць па краіне 26,5 цэнтнера з гектара.

З-за засухі падчас наліву збожжавых леташніх паказчыкаў не дасягнула ніводная вобласць.

# У суботу ў Беларусі адбыўся вялікі кадратрус

## Яны апынуліся за парогам Дома ўрада



**Андрэй Кабякоў, былы прем'ер-міністр, 57 гадоў**

Нарадзіўся ў Маскве ў сям'і ваеннага лётчыка. Ва ўзросце трох гадоў пераехаў з сям'ёй у Мінск. Скончыў Усесаюзную завочную матэматычную школу пры Ленінградскім універсітэце, Маскоўскі авіяцыйны інстытут, Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі і Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання.

Працаваў майстрам, старшым майстрам механазборачнага цэха Мінскага механічнага завода імя Вавілава, начальнікам планава-эканамічнага аддзела, намеснікам дырэктара па эканоміцы завода "Дыяпраектар".

1995–1996 гг. – намеснік начальніка Службы кантролю прэзідэнта Беларусі.

У 1998 г. займаў пасаду прэзідэнта Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці.

У 1998–2000 гг. – старшыня КДК. У 2001–2010 гг. – намеснік прэм'ер-міністра Беларусі. У снежні 2010 г. быў прызначаны намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. Потым – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Расіі. У 2012-м – кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. На пасадзе прэм'ер-міністра працаваў з 27 снежня 2014 года.

Жанаты, мае дачку і сына.



**Васіль Мацюшэўскі, былы першы віцэ-прэм'ер, 49 гадоў**

Родам з Оршы. Скончыў эканамічны факультэт БДУ, аспірантуру Інстытута эканомікі Акадэміі навук, Лонданскую школу бізнесу. Кандыдат эканамічных навук.

Працаваў у Міністэрстве замежных спраў, намеснікам старшыні Нацбанка, саветнікам міністра фінансаў.

С 2010-га па 2014 год – старшыня праўлення «БПС-Ашчадбанка». З канца 2014-га – першы віцэ-прэм'ер.



**Уладзімір Сямашка, былы віцэ-прэм'ер, 69 гадоў**

Нарадзіўся ў Калінкавічах Гомельскай вобласці.

У 1972 годзе з адзнакай скончыў Беларускі політэхнічны інстытут.

1996–2001 гг. – гендырэктар Мінскага завода "Гарызонт".

2001–2003 гг. – міністр энергетыкі Рэспублікі Беларусь.

З 2003 года – першы намеснік прэм'ер-міністра.

Валодае англійскай мовай. Жанаты. Мае дзвюх дачок.



**Анатоль Калінін, былы віцэ-прэм'ер, 59 гадоў**

Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Краснаполлі Магілёўскай вобласці.

Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце.

Працаваў дырэктарам Краснапольскага раённага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, дырэктарам Баранавіцкага камунальнага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства "Водаканал" , памочнікам прэзідэнта.

З снежня 2010 года быў намеснікам прэм'ер-міністра. Жанаты, мае дачку і сына.



**Васіль Жарко, былы віцэ-прэм'ер, 62 гады**

Родам з вёскі Леснікі Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскі дзяржаўны медінстытут, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Працаваў раённым педыятрам, намеснікам начальніка ўпраўлення аховы здароўя Брэсцкага аблвыканкама, дырэктарам дачччнага ўнітарнага прадпрыемства "Санаторый "Крыніца".

У 2003–2005 гг. працаваў генеральным дырэктарам УП "Белпрафсаюзкурорт".

У 2005–2006 гг. – выканаўца абавязкаў генеральнага сакратара Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа.

З мая 2006 г. па снежань 2016-га быў міністрам аховы здароўя Беларусі.



**Віталь Воўк, былы міністр прамысловасці, 56 гадоў**

Нарадзіўся ў Калінкавічах Гомельскай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. У 1984–2001 гг. працаваў на розных пасадах на Мінскім аўтамабільным заводзе, а затым – Мінскім заводзе колавых цягачоў. Быў гендырэктарам ТАА "ЮКОЛА-СЭРВІС" і ТАА "ЮКОЛА Мотарс", ААТ "Мінскі завод колавых цягачоў". На пасадзе міністра прамысловасці – з 27 снежня 2014 года. Мае дачку.



**Анатоль Чорны, былы міністр архітэктуры і будаўніцтва, 60 гадоў**

Нарадзіўся ў Чарняхоўску Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі. У 1983-м скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут па спецыяльнасці «Будаўнічыя і дарожныя машыны і абсталяванне».

З 15 кастрычніка 2013 года – міністр архітэктуры і будаўніцтва.

Міністр распавядаў "Народнай Волі", што калі пераехаў у Мінск, то ўзяў крэдыт у «Белаграпрамбанку» на будаўніцтва двухпакаёвай кватэры. Дом, дзе жыве Чорны, знаходзіцца ва Уручы. Да гэтага жыў у службовай кватэры.



**Сяргей Папкоў, былы міністр сувязі і інфарматызацыі, 61 год**

Родам з вёскі Расна Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, у 1999 годзе – Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

З 1997-га па 2008 г. – галоўны інжынер Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі "Белтэлекама".

З 2008-га па 2011 г. – дырэктар філіяла "Мінская гарадская тэлефонная сетка" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электрасувязі "Белтэлекам".

З 2011-га да 21 лютага 2014 г. з'яўляўся генеральным дырэктарам "Белтэлекама".

21 лютага 2014 года прызначаны міністрам сувязі і інфарматызацыі



**Уладзімір Зіноўскі, былы міністр эканомікі, 63 гады**

Нарадзіўся ў г.п.Ялізава Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, Акадэмію кіравання пры Савеце міністраў.

Быў на камсамольскай рабоце, затым працаваў у статыстычных органах і апараце Савета міністраў.

У 1992-1998 гадах – намеснік старшыні Дзяржаўнага статыстычнага камітэта, Міністэрства статыстыкі і аналізу.

1998–2014 гг. – міністр статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.

На пасадзе міністра эканомікі з 27 снежня 2014 года.

**Алег Двігалёў, былы старшыня Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта, 53 гады**



Нарадзіўся на востраве Вітэ Паўночнамарскага раёна Мурманскай вобласці.

У 1987 годзе скончыў Мінскае вышэйшае інжынерна-зенітнае ракетнае вучылішча СПА, а ў 2001 годзе – камандна-штабны факультэт установы адукацыі «Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь».

З верасня 2012 года займаў пасаду камандуючага Ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.

18 ліпеня 2017 г. быў прызначаны старшынёй Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта Рэспублікі Беларусь. Жанаты. Мае сына.

## Яны занялі крэслы ў Кабінеце міністраў



**Сяргей Румас, прэм'ер-міністр, 49 гадоў**

Да нядаўняга часу займаў пасаду старшыні праўлення Банка развіцця Беларусі.

Нарадзіўся ў Гомелі. Скончыў Яраслаўскае вышэйшае ваеннае фінансавае ордэна Чырвонай Зоркі вучылішча, Акадэмію кіравання пры Кабінеце міністраў Рэспублікі Беларусь.

Узначальваў "Белаграпрамбанк".

Працаваў віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Міхаіла Мясніковіча са снежня 2010 года па ліпень 2012-га.

Румас сам сышоў з гэтай пасады. Прызначаючы яго старшынёй праўлення Банка развіцця, А.Лукашэнка сказаў: *«Для ўрада гэта каласальная страта. Тым больш Сяргей Мікалаевіч вельмі добра працаваў і працуе на гэтай пасадзе. Але, як ён сам кажа, ён банкір, і гэта адчувалася ў яго рабоце. І ён імкнецца больш да канкрэтнай працы».*

З красавіка 2011 года Сяргей Румас з'яўляецца кіраўніком Беларускай федэрацыі футбола (на грамадскіх пачатках).

Жонка Сяргея Румаса працуе стаматолагам у адным з прыватных медыцынскіх цэнтраў.

У пары чацвёра дзяцей!



**Аляксандр Турчын, першы намеснік прэм'ер-міністра, 43 гады**

Апошнія два гады кіраваў Апаратам Савета міністраў.

Па статусе з'яўляўся міністрам. Быў прызначаны ўпаўнаважаным прадстаўніком прэзідэнта ў Гомельскай вобласці.

Ураджэнец Навагрудка, скончыў Беларускі эканамічны ўніверсітэт, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, пачынаў працоўную дзейнасць дырэктарам крамы калгаса «Авангард» у родным раёне, працаваў намеснікам старшынь Карэліцкага райвыканкама і Мінскага аблвыканкама.



**Уладзімір Кухараў, намеснік прэм'ер-міністра, 46 гадоў**

Да гэтага быў намеснікам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю.

Нарадзіўся ў вёсцы Ціманава Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Мае тры вышэйшыя адукацыі: скончыў Магілёўскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, Беларускі недзяржаўны інстытут праваазнаўства, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Быў дырэктарам школы, працаваў у Камітэце дзяржаўнага кантролю. З 2009-га да 2012 года ўзначальваў Цэнтральны раён Мінска. У 2012–2016 гг. быў першым намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама, курыраваў пытанні будаўніцтва і жылля.



**Ігар Ляшэнка, намеснік прэм'ер-міністра, 44 гады**

Чатыры апошнія гады ўзначальваў канцэрн "Белнафтахім".

Нарадзіўся ў горадзе Ачамчыра Абхазскай АССР. У 1996 годзе скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт.

Працаваў у падатковай інспекцыі, у 2006–2013 гадах быў дырэктарам Гомельскага хімічнага завода.

Жанаты, бацька траіх дзяцей.



**Ігар Петрышэнка, намеснік прэм'ер-міністра, 53 гады**

Вярнуўся ў Мінск з Масквы з пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Расіі.

Родам з вёскі Нялюбка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Вільнюскае каманднае вучылішча радыёэлектронікі, Ваенны Чырванасцяжны інстытут, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце.

У 1996–1999 гг. – працаваў на розных пасадах ва ўрадавых структурах. Быў першым намеснікам міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь.



**Дзмітрый Крутой, міністр эканомікі, 37 гадоў**

Да гэтага працаваў першым намеснікам міністра эканомікі.

Родам з пасёлка Бялынічы Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Быў на выкладчыцкай рабоце. Працаваў у Міністэрстве лясной гаспадаркі, з 2006 г. – у Міністэрстве эканомікі. Жанаты. Мае дваіх дзяцей.



**Дзмітрый Мікулёнак, міністр архітэктуры і будаўніцтва, 45 гадоў**

Быў дырэктарам камунальнага ўнітарнага прадпрыемства «УКБ Мінгарвыканкама».

Нарадзіўся і вырас у Мінску. Скончыў будаўнічы факультэт БНТУ. Дзевяць гадоў працаваў у генпадрадным інжынерам. У 2006 годзе стаў галоўным інжынерам, а ў 2011-м – дырэктарам ААТ «МАПІД». У 2006 годзе стаў галоўным інжынерам, а ў 2011-м – дырэктарам КУП «УКБ Мінгарвыканкама». Жанаты, выхоўвае сына і дачку.

Называе сябе даволі строгім кіраўніком: *"Імкнуся быць справядлівым, можа, не заўсёды атрымліваецца. Расслабляцца нікому не даю, трымаю ў тонусе".* Былыя падначаленыя вельмі цёпла адклікаюцца пра Дзмітрыя Мікулёнка і праводзілі яго на новае месца працы са слязьмі на вачах.



**Павел Уцюпін, міністр прамысловасці, 42 гады**

Раней працаваў намеснікам міністра прамысловасці.

Уцюпін нарадзіўся ў вёсцы Папоўка Харольскага раёна Прыморскага краю.

Скончыў БДЭУ і магістратуру, а затым Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, спецыяліст у галіне міжнародных адносін. Працаваў намеснікам дырэктара па знешнеэканамічных сувязях малога прадпрыемства "Дубль В", начальнікам аддзела знешнеэканамічных сувязяў вытворча-камерцыйнай фірмы "УТВ", эканамістам сумеснага прадпрыемства "Фрэбор" у Барысаве. Пасля заканчэння аспірантуры БДЭУ стаў дарадцам, а потым і галоўным дарадцам старшыні Магілёўскага аблвыканкама. З 2006 года працаваў намеснікам гендырэктара па эканоміцы і фінансах "Белшыны". Жонка Александрына працуе на МАЗе. У сям'і двое дзяцей – дачцэ 12, сыну 10 гадоў.

**Канстанцін Шульган, міністр сувязі і інфарматызацыі**



Працаваў намеснікам начальніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце.

Біяграфіі Шульгана ў адкрытым доступе няма, быццам ён не звычайны чыноўнік, а суперзасакрэчаная асоба. На былым месцы працы нават адмовіліся назваць дату яго нараджэння: *"Гэта персанальная інфармацыя, якую мы не маем права агалошваць".* Цырк, канешне…

Лукашэнка сказаў пра Шульгана так: *"Чалавек дысцыплінаваны, вайсковы, які вельмі добра ведае гэтую сферу і асабліва перспектыву развіцця, звязаную з інфармацыйнымі тэхналогіямі, стварэннем вялікай удзельнай вагі ў сферы ІТ".*

**Раман Галоўчанка, старшыня Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта, 45 гадоў**



Апошнія пяць гадоў правеў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, дзе працаваў амбасадарам Беларусі.

Родам з Жодзіна. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па эканамічнай спецыяльнасці. Быў галоўным спецыялістам сакратарыята Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь. У 2002–2005 гг. – намеснік начальніка аддзела Генеральнай пракуратуры.

У 2005–2006 гг. – галоўны дарадца ўпраўлення знешняй палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта.

Валодае англійскай, арабскай, нямецкай і польскай мовамі.

## Ці не атрымаецца так, што праз пэўны час і аднаўлены склад Савета міністраў акажацца пад катком Аляксандра Лукашэнкі?

## Ужо першыя 100 дзён дзейнасці новых людзей ва ўрадзе вызначаць іх лёс. Як і лёс усёй краіны.

ФАКТ

## Трэці за паўтара года

Прызначаны новы начальнік галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, паведамляе «Мінск-Навіны». Ім стаў Андрэй Улезла, які займаў пасаду генеральнага дырэктара ААТ «Белбакалея». Улезла мае дзве вышэйшыя адукацыі – скончыў Гомельскі ўніверсітэт спажыўкааперацыі і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце.

Навіна цікавая тым, што гэта ўжо трэці кіраўнік упраўлення за мінулыя паўтара года. Два папярэднія начальнікі ГУСР знаходзяцца пад вартай.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,

профессор,
доктор экономических наук

## Под прессом союзника

Россия всерьез наваливается на Беларусь. Она создает проблемы своему союзнику сразу по многим направлениям. Затишье после достижения договоренностей с Россией по нефтегазовому сектору в апреле 2017 года закончилось. С 2019 года начинается второй этап налогового маневра, в результате которого экспортная пошлина в цене на российскую нефть будет полностью замещена налогом на добычу полезных ископаемых (НДПИ). Поскольку нефть на белорусские НПЗ поставляется беспошлинно, но с растущим в цене НДПИ, ее цена практически сравняется с мировой.

Подсчитано, что в следующем году из-за налогового маневра белорусский бюджет потеряет около 600 млн (!) рублей. Как компенсацию от реализации налогового маневра российское правительство вводит для своих нефтепереработчиков так называемый плавающий акциз. Данная субсидия приведет к тому, что российские нефтепродукты будут дешевле белорусских на нашем рынке и полностью их вытеснят. По некоторым сведениям, Россия заблокировала для Беларуси процесс «перетаможки» предусмотренных договором 6 млн тонн своей сырой нефти, то есть ее реэкспорт. Без реэкспорта и с учетом налогового маневра потери белорусского бюджета в 2019 году могут достигнуть 4,3 млрд рублей. Белорусский Минфин пытается отыскать компенсационные схемы этих потерь в рамках переговоров с российской стороной.

СМИ сообщают, что Россия планирует с четвертого квартала ограничить беспошлинные поставки нефтепродуктов и сжиженных газов, подозревая Беларусь в реэкспорте их в Украину и страны Балтии. С осени предлагается ввести индикативный баланс поставок нефтепродуктов в Беларусь в строго определенных объемах, сверх которых экспорт топлива не будет допускаться. Москва вновь в лице РЖД напоминает о переориентации экспорта белорусских нефтепродуктов с портов Балтии на российские порты. Поставки в российские порты составили лишь 300 тысяч тонн при потенциале до 5 миллионов тонн. Наши НПЗ уже который месяц не вылазят из убытков. На погашение кредитов у них уходит около половины выручки, для завершения модернизации им необходимо еще год-полтора. Поэтому ухудшение экономических условий для этих валютообразующих предприятий может обернуться банкротством.

Еще весной был введен запрет на ввоз в Россию свинины из-за предполагаемой африканской чумы в Гомельской области. Вскоре за этим последовала очередная «молочная война». Как следствие, экспорт продукции АПК из Беларуси в Россию начал стремительно падать. Также почти приостановился рост экспорта в Россию другой белорусской продукции. Не случайно недавно глава государства резко высказался в адрес россиян: мол, они ведут себя «по-варварски».

С октября 2017 года Беларусь все никак не получит последние два транша кредита ЕФСР по 200 млн долларов каждый. Реально этими деньгами распоряжается руководство России, которое явно их «подвесило». К началу лета Беларусь была должна Российской Федерации 6,3 млрд долларов и 60 млрд российских рублей. Переговоры о так необходимом Беларуси кредите в 1 млрд долларов, который она запросила у правительства РФ, заморожены. Тем временем без рефинансирования прежних долгов перед россиянами Беларусь рискует допустить просрочки по выплатам и попасть на штрафные проценты.

В конце полугодия в экономике Беларуси, несмотря на рост отдельных валовых показателей, случились финансовые провалы. В июне рентабельность продаж крупных и средних предприятий снизилась до 6,9% – худший показатель с февраля 2017 года. Рентабельность сельского хозяйства упала до 2,1%. В промышленности этот показатель снизился до 7,3% – худший результат в текущем году. Как результат неэффективной модернизации белорусские предприятия испытывают непомерную долговую нагрузку. В январе–июне крупные и средние предприятия направили на погашение кредитов и займов 27,8 миллиарда рублей, или 26,3% своей выручки. В критическом финансовом положении находятся такие государственные флагманы, как «Белшина», «Гомсельмаш» и другие.

Обо всех этих «хронических болячках» белорусской экономики и острых текущих проблемах хорошо осведомлено российское руководство. Как и о той нервной атмосфере, которая сложилась в последнее время в белорусском правительстве. Какая же цель всего этого давления со стороны России? Ответ очевиден: окончательно втянуть страну в полную зависимость от восточной соседки, безвариантно держать ее в сфере своего влияния на грани финансового дефолта. На любые уступки – что-то требовать взамен. Можно задаться вопросом: а нужна ли вообще России Беларусь с развитой самодостаточной экономикой? Путин еще в конце июля пригласил Лукашенко на переговоры в Сочи, но белорусский лидер туда не спешит. Нетрудно догадаться почему…

Осенью уже на Россию реально навалятся экономические санкции, объявленные Конгрессом США. Как известно, они вступят в силу через 90 дней. Пока же только психологический фактор этого известия серьезно обвалил российский рубль. Это сделает российские власти еще менее сговорчивыми. Беларуси нужно надеяться только на свои силы.



ЧУЛІ?

## Суперпрыз для Вольгі Мазуронак




Банк “Масква–Мінск” заснаваў суперпрыз для Вольгі Мазуронак на Мінскім паўмарафоне-2018. Калі спартсменка зноў стане самай хуткай дзяўчынай на дыстанцыі 21,1 км, то ў дадатак да асноўных прызавых атрымае яшчэ 5 тысяч долараў.

Прычым суперпрыз зможа атрымаць толькі Вольга Мазуронак, падкрэсліваюць арганізатары мерапрыемства. Славутая спартсменка ўжо двойчы станавілася пераможцай Мінскага паўмарафона.

У гэтым годзе спартыўнае мерапрыемства пройдзе 9 верасня. Прабегчы ў цэнтры Мінска ўжо вырашылі прадстаўнікі больш з 30 краін свету. Кожны жадаючы можа паспрабаваць свае сілы на дыстанцыях 5,5, 10 ці 21,1 кіламетра. Усяго ж Мінскі паўмарафон збярэ да 35 тысяч чалавек – арганізатары ўвялі ліміт на колькасць удзельнікаў.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

БЛІЦ

## Як вы лічыце: аднаўленне складу Савета міністраў палепшыць жыццё беларусаў?

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, экс-кіраўнік Нацбанка, доктар эканамічных навук:**

– Пры захаванні цяперашняга сацыяльна-эканамічнага курсу, я лічу, нічога да лепшага не зменіцца.

Трэба даць свабоду ўраду, даць свабоду бізнесу, бо калі ўрад будзе па-ранейшаму кіраваць бізнесам, то, баюся, гэта не прывядзе да эфектыўнасці.

Хоць некаторыя зрухі могуць быць. Усё ж любая змена функцыянальнай улады – яна карысная. Можа, новыя прапановы па рэфармаванні дзяржкіравання наспеюць у каманды на чале з Румасам. Але справа ў тым, што не ўсё ад міністраў і нават ад таго ж Лукашэнкі залежыць. На нізкім узроўні чыноўнікі вельмі шкодзяць добрым прапановам. Ад канкрэтных выканаўцаў таксама шмат што залежыць!

**Рыгор СІТНІЦА, старшыня Беларускага саюза мастакоў:**

– Я зараз у адпачынку, далёка ад навін. І нават не ведаю, што ўрад памяняўся. Я на мастацкім пленэры, тут вельмі хораша і класна.

**Аляксандр ВАЙТОВІЧ, акадэмік, былы прэзідэнт Акадэміі навук, экс-старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу:**

– Без сістэмных пераўтварэнняў ніякія перастаноўкі кадраў нічога не дадуць. І нават нягледзячы на тое, што прыйшлі, як кажуць, маладыя і таленавітыя. Вось калі яны сістэму дзяржкіравання памяняюць – тады іншая справа. Але, думаеце, у мінулым складзе ўрада не было прыхільнікаў рынкавай сістэмы? Так проста з сістэмы не выскачыш, і цяперашняму ўраду прыйдзецца дзейнічаць у яе межах.

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека:**

– Як грамадзянін я лічу так: відавочна, што гэта не палітычны, а тэхнічны ўрад, які не вырашае нейкіх прынцыповых пытанняў. Хутчэй за ўсё, прызначаныя асобы будуць выконваць тыя ўказанні-даручэнні, якія, як лічыць спадар Лукашэнка, папярэдні ўрад не выканаў.

Сапраўды, людзі ва ўрад прыйшлі маладзейшыя.

Але, на жаль, урад моцна не ўплывае на выпрацоўку стратэгіі эканамічнага развіцця Беларусі. Ва ўсялякім выпадку так яно было. Ну а як будзе далей – пабачым. Але моцных спадзяванняў на стабільнае і ўстойлівае развіццё эканомікі Беларусі я не звязваю з гэтым урадам.

**Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, былы кіраўнік канцэрна “Амкадор”:**

– Думаю, не палепшыць. Румас, канешне, адукаваны спецыяліст, рыначнік, разумее, што трэба рабіць. Але хто яму дазволіць? Таму я не веру ў кардынальныя змены.

**Алена МАКОЎСКАЯ, кіраўнік грамадскага аб’яднання “Задзіночанне беларусаў свету “Бацькаўшчына”:**

– Я коратка адкажу: не! Мне падаецца, што ад перастаноўкі месцаў складнікаў сума не змяняецца.

**Уладзімір КАРАГІН, былы старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў:**

– Заўсёды ёсць надзея на перамены, на новыя акцэнты, на энергію і матывацыю новых кадраў, іх жаданне праявіць сябе ў дзейнасці ўрада.

Вядома, сістэма кіравання ў краіне мае патрэбу ў пераменах, па-іншаму неабходна кіраваць галінамі і тэрыторыямі. Неабходна ў саветы дырэктараў прадпрыемстваў і калегій міністэрстваў уводзіць незалежных экспертаў з бізнесу, навукі, дацэнтаў і прафесараў ВНУ, замежных спецыялістаў з адпаведнай матывацыяй і адказнасцю.

І трэба разумець: жыць будзем лепш, калі будзем лепш працаваць. А ўрад – гэта толькі менеджары, якія павінны арганізаваць працу. Зараз ва ўрад прыйшлі хлопцы дасведчаныя, матываваныя. Але, як той казаў, на ўрад спадзявайся, а сам не здавайся.

**Марына КОКТЫШ.**

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ



Игорь ЗЕЛЕНКЕВИЧ, экс-министр здравоохранения Республики Беларусь:

## «Россия может закрыть свой рынок для белорусских лекарств»

*В июне, озвучивая некоторые нюансы громкого коррупционного дела в сфере медицины, глава КГБ Валерий Вакульчик сообщил, что из-за коррупции стоимость медоборудования и лекарств завышалась на 10–60, а иногда и на 100 процентов.*

*Прошло почти два месяца после этого заявления, а цены на лекарства в Беларуси остались прежними. Почему? Стоит ли ожидать снижения цен на лекарственные препараты? Что вообще сегодня происходит на лекарственном рынке Беларуси? Надо ли нашей стране наращивать выпуск собственных лекарственных средств?*

*Эти и другие вопросы мы обсудили с министром здравоохранения Беларуси в 1997–2001 годах, ныне советником информационно-аналитического департамента Исполнительного комитета СНГ* ***Игорем Зеленкевичем****.*

**– Игорь Борисович, в Беларуси уже давно гуляет поговорка: «Дороже здоровья только лекарства». Казалось бы, после заявления председателя КГБ ценники в аптеках должны поползти вниз, но этого не происходит. На ваш взгляд, почему?**

– Прежде всего нужно ответить на один очень простой и одновременно сложный вопрос: «Почему цены на лекарства в соседних странах ниже, чем в Беларуси?» Лично я уже давно покупаю нужные мне лекарства либо в Литве, либо в Польше, либо в России. Там дешевле.

Для чего у нас существует РУП «Белфармация»? Для того, чтобы обеспечивать население лекарственными средствами. И, наверное, представителям этого государственного предприятия должно быть небезразлично, по какой цене белорусы будут покупать медикаменты. Но судя по тому, что сейчас КГБ ведет расследование по коррупции в системе здравоохранения, это было не совсем так.

Вообще ситуация с лекарственным обеспечением в Беларуси, на мой взгляд, сложилась непростая ввиду взятого в фармацевтической сфере курса. Выпуск отечественных лекарств с каждым годом растет. В этом есть и плюсы, и минусы.

Безусловно, белорусские лекарства более доступны по цене. Возможно, и по качеству они многих устраивают и, естественно, должны присутствовать на рынке. Но… Я задаю себе вопрос: а сколько лекарственных средств зарегистрировано на рынке России, Казахстана, с которыми мы состоит в Таможенном союзе? На фоне этих стран Беларусь выглядит очень бледненько. В России в 2017 году было зарегистрировано 14.435 торговых наименований лекарственных средств, в Украине – 10.766 наименований, в Казахстане – 7053. А в Беларуси зарегистрировано всего лишь около 5 тысяч лекарственных средств, а это практически в 3 раза меньше, чем в России. Причем более 30 процентов зарегистрированных у нас препаратов – отечественного производства.

То есть в арсенале российского врача больше возможностей подобрать пациенту адекватное лечение, чем у его белорусского коллеги.

**– Почему это происходит? Кто-то ставит барьеры на пути регистрации импортных препаратов?**

– Думаю, да. И с определенной целью: чтобы докладывать наверх о том, что доля отечественных лекарств растет, 50 процентов рынка мы покрываем. Другого объяснения тому, что у нас по 6–8 месяцев идет регистрация импортного препарата, у меня лично нет. Какая компания захочет выходить на наш рынок со своими новинками, зная, с какими препонами и сложностями она здесь столкнется? Тем более что рынок не такой уже и огромный, население Беларуси 9,6 миллиона. Это не Украина и не Россия.

На мой взгляд, решая вопросы лекарственной безопасности и импортозамещения лекарственных средств, все же надо нашим чиновникам не забывать и о пациенте. У белорусских специалистов должен быть более широкий арсенал медикаментов. А у нас не только не регистрируются новые импортные лекарственные средства, но и исчезают из аптек те препараты, которые присутствовали на рынке и были востребованы. Препараты эффективные и безопасные.

**– А почему молчат специалисты? Есть же в стране Ассоциация врачей, которую возглавляет депутат Палаты представителей Дмитрий Шевцов…**

– Это вопрос не ко мне.

На мой взгляд, у каждого человека должна быть внутренняя совесть. Ее не обманешь…

По моему мнению, еще одна несправедливость – это рецептурный отпуск лекарств. Да, есть ряд препаратов, которые необходимо реализовывать строго по рецептам, – это сильнодействующие лекарственные средства, антибиотики, а также препараты, которые могут использоваться в преступных целях, например, клофелин. Но, например, у человека гипертония, он хронический больной, врачом назначена схема лечения (она может корригироваться, но в целом остается выверенной), и человек принимает данные препараты пожизненно. Зачем ему ходить регулярно в поликлинику за рецептом?! Посмотрите статистику: на одного жителя Беларуси в год приходится 12,5 посещения амбулаторно-поликлинических учреждений. Уверен, что ходят они туда не только с целью профилактики и лечения, половина пациентов на приеме вообще не нуждается в осмотре врача, они приходят выписать или продлить рецепт, взять справку и т.д.

**– Игорь Борисович, те же специалисты Минздрава могут вам возразить: в большинстве европейских стран лекарства отпускаются только по рецепту врача.**

– Там, во-первых, другая доступность, там есть помощники врача, которые выписывают рецепты. А, во-вторых, и это главное, медицинские страховки во многих странах частично покрывают расходы пациента на лекарства. Но только в том случае, если лекарственное средство было прописано врачом и есть рецепт на него. Может быть, и нам стоит рассмотреть вопрос о внедрении страховки на лекарственное обеспечение. Нужно все взвесить. Эксперты должны сесть и просчитать все за и против.

Но сегодняшняя ситуация с рецептами – это не на благо людей, не на благо пациентов, бумажная волокита отнимает много времени у медицинских работников. Эта ситуация даже в чем-то унизительна.

**– И последний вопрос. Мне кажется, в бытность министром здравоохранения вы выступали за расширение производства отечественных лекарств, а сейчас критикуете политику импортозамещения в фармакологии…**

– Я и сейчас считаю, что у нас еще есть шанс стать так называемой фармацевтической Швейцарией. Но для этого нужно создать на территории страны свободную экономическую зону с льготным налогообложением для тех фармацевтических производств, которые будут ориентированы на выпуск экспортной продукции, в первую очередь на российский рынок. Но это должны быть современные производства, организованные в соответствии с международными нормами GMP, а не с местными, белорусскими, стандартами. Причем сертифицировано должно быть все производство, а не отдельные линии.

Сегодня в Беларуси только одно производство соответствует международным нормам GMP. Все остальные производства на фармпредприятиях, которые имеют сертификаты GMP, сертифицированы по национальным правилам GMP.

**– Оправдана ли ориентация на российский рынок? Сегодня этот рынок открыт, а завтра могут возникнуть барьеры. Примеров достаточно: то «молочные» войны идут между Россией и Беларусью, то блокируются поставки мяса, овощей из нашей страны…**

– Опасаюсь, что Россия может закрыть свой рынок для белорусских лекарств уже сейчас. И именно по той причине. что их выпуск не сертифицирован по международным правилам GMP. Дело в том, что в самой России принят план перевооружения отечественной фармотрасли до 2020 года именно по международным стандартам GMP. То есть белорусам есть над чем задуматься.

Сегодня наш основной рынок сбыта – Россия, и в каком положении окажутся белорусские производители лекарств, если он закроется?! От них требуют к 2022 году половину всех выпускаемых медикаментов продавать за рубеж. Статистика же прошлого года такова: на экспорт было поставлено лекарственных средств на сумму около 150 миллионов долларов, а произведено фармпродукции более чем на 500 миллионов.

Кроме того, у нас есть возможность расширять экспортный потенциал в Среднюю Азию, Африку. Но это должен быть качественный продукт, произведенный по международным стандартам. Должна быть привлекательной не только цена, но и качество.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА



# На фуры па Еўропе, каб пражыць у Беларусі

*Гродзенец Мікалай Пракопчык з'ехаў з Беларусі працаваць у Польшчу, як і большасць нашых землякоў, толькі з адной прычыны – у нашай краіне праблематычна знайсці работу, каб добра зарабляць і ўтрымліваць сям'ю.*

### «Я сядзеў і чакаў, што эканамічная сітуацыя зменіцца, але толькі страціў час...»

Мікалаю Пракопчыку трохі больш за 50 год. Доўгі час ён працаваў у родным горадзе таксістам у прыватнай фірме на службовым аўтамабілі. З часам набыў уласную машыну, зарэгістраваў прадпрымальніцкую дзейнасць, марыў такім чынам дапрацаваць да пенсіі. Аднак на сваёй таксоўцы яму давялося папрацаваць няшмат часу. Мікалай узгадвае, што эканамічная сітуацыя рэзка пагоршылася, зніклі кліенты, стала праблематычна аплачваць падаткі, не хапала сродкаў на тое, каб падтрымліваць у адпаведным стане машыну. Зароблены цяжкай працай грошай (даводзілася круціць баранку нават па 15 гадзін у суткі) не ставала нават на нармальнае харчаванне для сям'і.

*"Але я не збіраўся нікуды з'язджаць. Спачатку закрыў сваю прадпрымальніцкую дзейнасць, чакаў, што нешта зменіцца ў краіне,* – распавядае Мікалай. – *Але толькі страціў час. Калі зразумеў, што перспектывы няма, пачаў задумвацца пра ад'езд на работу за мяжу".*

### Першыя крокі дапамог зрабіць сябра

Пашанцавала, як згадвае Мікалай, што ён меў вадзіцельскую катэгорыю, якая дазваляла яму кіраваць цяжкагрузнымі машынамі. Ягоны сябра, які ўжо паўгода працаваў у Польшчы на фурах, параіў яму пакаштаваць гэтага хлеба.

*"Я не стаў хадзіць і шукаць працу праз фірмы, а сам наўпрост паехаў у канкрэтную фірму ў горадзе Элк,* – згадвае Пракопчык. – *Паразмаўляў з гаспадаром, і той зрабіў мне адпаведныя дакументы для атрымання працоўнай візы".*

Так спадар Мікалай стаў кіроўцам фуры польскай фірмы. Пачаў ездзіць па краінах Еўропы, вазіў самыя розныя грузы.

*"Чаго мне толькі не загружалі: і малако, і іншыя харчы, і паперу, і інструменты, якія трэба было дастаўляць у розныя краіны Еўропы,* – распавядае Мікалай. – *Але для мяне было ўсё адно, што вазіць, я выконваў работу і атрымліваў за гэта годны заробак".*

Мікалай распавядае, што, едучы на работу, трохі сумняваўся ў сваім валоданні замежнымі мовамі. Англійскую ведаў павярхоўна, нямецкую наогул не вывучаў, а размаўляць мог толькі па-польску дзякуючы таму, што вырас у Гродне.

*"Але аказалася не ўсё так страшна, бо патроху пачаў больш разумець па-англійску, з'явіліся ў лексіцы і нямецкія фразы. А што яшчэ вельмі цікава, амаль у любой краіне сустрэнеш выхадцаў з Расіі альбо Польшчы, а ў такіх выпадках ужо зусім проста дамовіцца".*

Яшчэ спадар Мікалай звяртае ўвагу на прыстойнасць і высокую культуру еўрапейцаў, якія, нават не разумеючы тваёй мовы, імкнуцца адразу табе дапамагчы.

### «Гродзенскую зарплату я зарабляў за тры працоўныя дні…»

Паводле слоў Мікалая, работу ў польскай фірме цяжка назваць рамантычнай, як пра гэта часам пішуць альбо распавядаюць некаторыя людзі.

*"Ты не толькі сядзіш за рулём і ездзіш па прыгожых еўрапейскіх краінах,* – кажа Мікалай. – *Табе даводзіцца ўдзельнічаць у пагрузцы і разгрузцы, замацоўваць груз, а ўсё гэта даволі цяжкая фізічная праца".*

Пракопчык згадвае, што працаваў 5 дзён у тыдзень, бывала, і па 15 гадзін у суткі – толькі не ўвесь час, а некалькі дзён, паколькі кіроўца за рулём у Еўропе строга кантралюецца адмысловым прыборам – тахографам.

*"Адпачываць я павінен быў не менш за 11 гадзін, у асобных выпадках – дзевяць. І спаў, і гатаваў ежу – усё гэта ў машыне. Умовы нармальныя, нават камфортныя, але ўвесь гэты час сам, адзін, без сям'і",* – падкрэслівае спадар Мікалай.

Заробак кіроўцы TIR (сістэма міжнародных аўтамабільных перавозак) у польскай фірме, паводле слоў Пракопчыка, складаў ад 50 да 65 еўра за суткі.

*"У маім родным Гродне заробак большасці маіх знаёмых, калі я ад'язджаў на работу, складаў каля 300 рублёў. Гэта значыць, што там я гэтыя грошы зарабляў за тры працоўныя дні".*

Пракопчык распавядае, што ў Польшчы зараз паўсюль шмат работы, паколькі эканоміка краіна дынамічна развіваецца. Праўда, там усе ведаюць, што за адну і тую ж работу паляку плацяць больш, чым беларусу альбо ўкраінцу.

*"Я адразу ведаю, якую суму мне заплацяць працадаўца. І ён заўсёды пытаецца – ці задавальняе гэта мяне,* – кажа спадар Мікалай. – *Таму качаць правы, маўляў, даплаціце, там не атрымліваецца".*

### «Мы едзем туды ад безнадзейнасці…»

Паводле слоў падара Мікалая, ён не хоча нікога агітаваць ехаць на работу за мяжу. Кажа, што яму вельмі крыўдна за сваю краіну, з якой і моладзь, і нават мужчыны сярэдняга веку мусяць з'язджаць, каб папросту зарабіць на жыццё сваёй сям'і.

*"Уявіце сабе маладога чалавека 28 гадоў, які пакідае недзе ў Гродне жонку і двое дзетак і едзе на паўтара месяца ў Польшчу на заробкі,* – мадэліруе сітуацыю Мікалай. – *Вяртаецца праз паўтара месяца з грашыма, а за гэты час дзеткі раслі без яго, жонка чакала... Хіба гэта нармальнае жыццё? Мы едзем туды ад безнадзейнасці".*

Мікалай дадае, што беларусы, якія ад'язджаюць на работу ў Польшчу, як правіла, у большасці выпадкаў уладкоўваюцца не па сваёй спецыяльнасці, а туды, дзе ёсць работа і дзе можна больш зарабіць.

Спадар Мікалай, распавядаючы пра стаўленне наймальнікаў да рабочых з Беларусі, кажа, што большасць працадаўцаў, з якімі яму даводзілася мець справу, сумленныя і прыстойныя людзі. Але ў ягонай практыцы былі моманты, калі польскі працадаўца ставіўся да яго не зусім прыстойна.

*"Я заўсёды кажу ім дзякуй за тое, што яны даюць нам работу,* – кажа Пракопчык. – *Але і яны павінны быць нам удзячныя, паколькі мы працуем сумленна. А ім цяпер вельмі не хапае працоўных рук. І вельмі шкада, калі табе часам наўпрост даюць зразумець, што ты тут як бы чалавек другога гатунку. На жаль, такое сустракаецца".*

### Дзіўная акалічнасць

Спадар Мікалай дзеліцца яшчэ адным сваім назіраннем. У яго шмат знаёмых беларусаў, якія працуюць у Польшчы. І перш за ўсё ён імкнецца падтрымліваць адносіны менавіта з гродзенцамі.

*"Ведаеце, адна рэч мяне вельмі здзівіла,* – кажа Пракопчык. – *Ніхто са знаёмых гродзенцаў, якія па месяцы і больш знаходзяцца на рабоце, а потым на пару тыдняў едуць дамоў, не захацеў узяць сям'ю і пераехаць жыць у Польшчу. Магчыма, гэта толькі ў мяне такія знаёмыя, хаця я і сам такі. А чаму? Не магу зразумець...".*

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**
*Гродна.*

САЛІДАРНАСЦЬ

## Журналістам сабралі больш за 5000 долараў

Для гэтага ініцыятыве BY_help спатрэбілася дзесяць дзён. Аднак збор сродкаў для дапамогі журналістам, якія праходзяць па "справе БЕЛТА", працягваецца.

*"Вялікі дзякуй усім, хто адгукнуўся на заклік!*

*На дадзены момант сітуацыя з тэхнікай не настолькі вострая, як першапачатковая, аднак па-ранейшаму вісіць пытанне магчымых штрафаў, так як крымінальная справа працягваецца і чым яна завершыцца, – зусім не зразумела",* – паведамляецца на старонцы ініцыятывы ў "Фэйсбуку".

ЧУЛІ?

## «Малочныя рэкі» змялелі

Экспарт беларускага малака ў Расію рэзка скараціўся ў першым паўгоддзі 2018 года, сведчаць дадзеныя Белстата. У параўнанні з аналагічным перыядам 2017 года валютныя паступленні па гэтай экспартнай пазіцыі знізіліся на 67,8 млн долараў – з 352,1 млн да 284,3 мільёна.

Асноўная прычына – зніжэнне паставак у Расію згушчанага і сухога малака, якія скараціліся амаль на траціну.

Трэба адзначыць, што Расія ўсё роўна застаецца асноўным рынкам збыту для беларускага малака, туды адпраўляецца 3/4 экспарту. Але ў спісе краін – атрымальнікаў беларускай малочкі ўжо больш за 20 дзяржаў.

ЖАХ!

## Зноў муж забіў жонку

*У Ганцавічах на працягу тыдня здарыліся дзве трагедыі.*

15 жніўня на вачах у малалетняга сына муж зарэзаў жонку, а потым сам павесіўся ў гаражы. А днямі ў вёсцы Малькавічы Ганцавіцкага раёна муж пасля чарговага скандалу забіў жонку на калгасным двары (жанчына там працавала).

Адкуль у беларусаў столькі жорсткасці і нянавісці да людзей, якія яшчэ ўчора былі блізкімі і любімымі?

ДЫПКУР'ЕР

## Джэніфер Мур – новы кіраўнік амбасады ЗША ў Беларусі

У ліпені нашу краіну пакінуў Паверанны ў Справах ЗША ў Беларусі Роберт Райлі, пры якім беларусам вярнулі магчымасць адкрываць у Мінску ў амерыканскай амбасадзе ўсе катэгорыі амерыканскіх віз. Райлі працаваў у Мінску два гады.

І вось стала вядома, што пасаду Паверанага ў Справах ЗША ў Беларусі будзе выконваць Джэніфер Мур.

Як паведамляюць у амбасадзе, Мур – кар'ерны дыпламат. Перад прыездам у Мінск яна займала пасаду намесніка дырэктара Упраўлення па справах Паўднёвай Еўропы Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, якое адказвае за стасункі ЗША з Турцыяй, Грэцыяй і Кіпрам.

Дагэтуль Джэніфер Мур яшчэ не кіравала дыпмісіяй сваёй краіны ў замежжы, аднак яе біяграфія досыць насычаная. Яна працавала ў якасці намесніка дырэктара ўпраўлення Дзяржаўнага дэпартамента па міратворчай дзейнасці, санкцыям і барацьбе з тэрарызмам, саветніка па палітычных і эканамічных пытаннях Амбасады ЗША ў Албаніі, а таксама на розных пасадах у палітычным, ваенна-палітычным і эканамічным аддзелах у амбасадах ЗША ў Турцыі, Босніі і Герцагавіне, Іраку і Інданезіі. Яна вывучала рускую, турэцкую, сербскахарвацкую, албанскую і інданезійскую мовы.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СИТУАЦИЯ

# Замкнутый круг Трофима Гонтаренко

*Семь лет назад предприниматель Трофим Гонтаренко из Марьиной Горки, что в Минской области, задумал открыть кафе – в городе напряженка с объектами общепита. Но, пройдя все, как ему тогда казалось, необходимые процедуры, открыть новое заведение он не может до сих пор. В местном исполкоме утверждают: строительство осуществлялось с нарушениями закона. Сам Трофим Гонтаренко уверен: местные чиновники умышленно «заваливают» приемку кафе.*

*Корреспондент «Народной Воли» выехал в Марьину Горку, чтобы разобраться в этой запутанной ситуации.*

### «Это заговор…»

Мы встретились с Трофимом Трофимовичем прямо в кафе, которое и стало яблоком раздора в отношениях между предпринимателем и местной «вертикалью».

Здание кафе – обычный добротный домик. Внутри уютно, чисто и аккуратно. Возле пустой барной стойки – столбиком составлены стулья, в зале стоит несколько столиков. Посетителей здесь нет и быть не может. Местная власть, на которую Гонтаренко крепко обижен, не дает разрешения на работу.

Собравшись с мыслями, немолодой уже предприниматель (Трофиму Трофимовичу идет восьмой десяток) начинает рассказывать:

– Еще несколько лет назад на этом самом месте было чистое поле, заросшее сорняками. Но место здесь хорошее, что называется, проходное – рядом трасса на Старые Дороги, машины снуют туда-сюда. Для кафе лучшей точки не найти. Это я сразу понял, есть у меня коммерческая жилка. Бизнесом занимаюсь аж с 1989 года, когда стал учредителем научно-производственного кооператива «Эффект». Правда, опыт с открытием точки общепита у меня первый. А кафе в Марьиной Горке, поверьте, нужны – их в нашем городе, в котором на сегодняшний день проживает около 35 тысяч человек, не хватает.

Знал, что открыть кафе будет непросто, настраивался на продолжительную бумажную волокиту, но что все будет настолько сложно, даже и представить себе не мог!

**– Трофим Трофимович, с чего все начиналось?**

– Решение о строительстве этого кафе я принял еще в 2011-м. Собрал необходимые документы. Пуховичский райисполком принял решение об утверждении акта обследования участка и разработке проектной документации.

Сам проект будущего кафе был заказан в ЧУП «Риэлт Центр». Как положено, я заключил с ними договор, и через некоторое время мне принесли готовый проект для ознакомления. Честно признаюсь, я не являюсь большим специалистом в этом вопросе, не могу на глаз определить правильность проекта и его пригодность к реализации. Поэтому решил: пусть анализируют специалисты. Через несколько дней из райисполкома мне принесли проект, подписанный начальником отдела архитектуры и строительства Татьяной Силивончик. Мне было рекомендовано полностью изменить фасад кафе: сделать его деревянным, то есть перманентно гниющим. Если бы я согласился на новый проект, фасад пришлось бы постоянно ремонтировать. Я, как человек, умеющий считать заработанные деньги, сразу понял: при реализации нового проекта затраты возрастут минимум на 10–13 процентов (а всего я вложил в это строительство 35–40 тысяч долларов своих кровных средств). На это я согласиться не мог. И началось…



**– То есть, несмотря на то, что первоначальный проект «завернули», кафе вы строить все-таки решили?**

– Да, и я не отрицаю, что осознанно отошел от первоначального проекта. Например, совместил комнату отдыха работников и кабинет заведующего в одном помещении для сотрудников кафе. Подготовил для работы кухню – купил плиту, мойку и необходимую технику. Подчеркну: все эти изменения совершались не самовольно, а после согласования с местным Центром гигиены и эпидемиологии.

Строительные работы закончились еще в 2014-м, то есть четыре года я бы мог уже спокойно работать. Но у нас же в стране как: пока не согласуешь ввод объекта со всеми компетентными службами – о работе можешь забыть. Этих согласований я добиваюсь уже пятый год. Причем ни санстанция, ни пожарные, ни чиновники, которые отвечают за охрану природы, не против ввода этого кафе в работу. Загвоздка только в том, что разрешение на работу не дает местный отдел архитектуры и строительства нашего исполкома. А конкретно его начальник Татьяна Силивончик.

**– Как думаете, почему?**

– Считаю, что это своего рода заговор. Я уверен: если бы это кафе строило государство, то его уже давно приняли бы в работу. А мне только нервы мотают. Что плохого в том, что я решил построить это кафе? Создам рабочие места, буду исправно платить налог в бюджет района – кому от этого будет плохо?

«Народная Воля» для меня последняя инстанция в этой борьбе. Куда я только не обращался – дошел даже до Администрации президента с просьбой объективно разобраться в ситуации. Пусть бы в Марьину Горку прислали независимую комиссию... Но пока на все мои обращения приходят отписки: мол, это вопрос местного значения, на месте и разбирайтесь. А если никак не разобраться, если тупик? Тем более что Александр Лукашенко не раз и не два подчеркивал, что государство должно всячески помогать малому бизнесу…

### «Палки в колеса никто не ставит…»

Выслушав одну сторону, журналист «Народной Воли» отправился в исполком Марьиной Горки – на встречу с начальником отдела архитектуры и строительства Татьяной Силивончик.

**– С ситуацией, в которой оказался Трофим Гонтаренко, вы, конечно, знакомы?**

– Да, и очень хорошо. Начну с того, что в Беларуси регламентирован порядок ввода объектов с законченным строительством в эксплуатацию. Этот порядок прописан в соответствующем постановлении Совета министров и ряде других нормативных актов. Любое строительство в Беларуси стоит на трех китах: разрешении на строительство, проектировании объекта и строительстве в соответствии с проектом. В случае с кафе, которое построил Трофим Гонтаренко, имеются существенные отклонения от первоначального проекта.

Там самовольно построены две комнаты у входа слева и справа. Это и есть нарушение первоначального проекта. Кроме того, в прошлом году, насколько я знаю, к Гонтаренко были вопросы и у санстанции. Может быть, эти недочеты сейчас устранены, но главная проблема не в этом. Главная проблема в отклонении от первоначального проекта.

**– То есть в том виде, в котором здание кафе стоит сейчас, оно принято не будет ни при каком раскладе?**

– Вы правы. Давайте представим с вами чисто гипотетически: по каким-то причинам я пожалела Гонтаренко, например в силу его уважаемого возраста, и приняла кафе в эксплуатацию, а завтра там, не дай Бог, случится пожар и погибнут люди… После проверки что выяснится? Выяснится, что пожар произошел из-за отклонения в проектной документации. Простым выговором я не отделаюсь…

**– Что должен сделать Трофим Гонтаренко для того, чтобы кафе начало работать?**

– По белорусским законам это кафе можно оформить как самовольно возведенное строение. Тогда после очередных проверок оно может быть принято в эксплуатацию. Этот алгоритм действий я разъясняла и Трофиму Трофимовичу. Однако он убежден, что я лично отношусь к нему предвзято. Поверьте, это не так. В отношении меня даже были проведены служебные проверки, в том числе и Комитетом по архитектуре. Выяснилось, что все законно. Он писал, что я ему якобы навязывала «правильную» проектную организацию – это тоже не так, и на сей предмет меня проверяли. Я вам скажу больше: совсем недавно к Гонтаренко выезжал заместитель председателя исполкома. В разговоре Трофиму Трофимовичу было разъяснено: либо вы приводите кафе в соответствие с проектом, либо регистрируете его как самовольное строение. Ни того, ни другого пока не произошло. Есть еще и третий вариант – скорректировать проектную документацию. В этом случае ответственность за все несет проектировщик. Пока один из этих вариантов не будет Гонтаренко принят к действию – все останется, как есть.

По идее, сейчас Трофим Гонтаренко должен заказать обследование конструкции кафе – есть специальные организации, которые этим занимаются. Затем он должен обратиться в исполком и зарегистрировать кафе как самовольную постройку. На этом работа заказчика закончена. Исполком в свою очередь направляет запросы в разные инстанции – санстанцию, инспекцию по экологии, МЧС… Эти организации дают заключение в соответствии со своей компетенцией. Если такие заключения даны и у меня есть заключение, что объект устойчив, то он вводится в эксплуатацию решением исполкома и регистрируется в БТИ. Вот и все. Никакого заговора против местного предпринимателя нет. Кстати, организацию НПО «Эффект» возглавляет сын Трофима Гонтаренко, а не он сам. Я пыталась вызвать на разговор и его, но безуспешно. Еще раз подчеркну: никаких препятствий в приемке этого кафе мы не чиним – просто все должно быть по закону.

**P.S.** После визита в исполком я рассказал об итогах встречи с Татьяной Силивончик Трофиму Гонтаренко. Регистрировать кафе как самовольное строение предприниматель не намерен, поскольку уверен, что и в этом случае местные чиновники найдут, к чему придраться. Поэтому Трофим Трофимович по-прежнему настаивает на создании независимой комиссии, которая способна разобраться в ситуации, и готовит очередную порцию обращений во властные структуры.

**Виталий ГАРБУЗОВ.**
**Минск – Марьина Горка – Минск.**

